АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА імя ЯКУБА КОЛАСА

# ГІСТАРЫЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

ВЫПУСК 6

**Выостреный — Глядати**

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1985

ББК 81.2.Бел-4
Г 51

Галоўны рэдактар А. І. Жураўскі

Рэдактар выпуска А. М. Булыка

Памочнік рэдактара Н. Ц. Кажура

Складальнікі:
Р. С. Гамзовіч (выряжаючий — вытесанье),
Н. Ц. Кажура (вырекати — выряжати),
І. І. Крамко (г — глядати),
Л. І. Рабаданава (выостреный — вырезывати),
З. К. Турцэвіч (вытесати — вящеимство)

Рэцэнзенты:
М. С. Васілеўскі, кандыдат філалагічных навук,
Г. Ф. Вештарт, кандыдат філалагічных навук

**Гістарычны** слоўнік беларускай мовы. Вып. 6. Выост-
Г 51 реный — Глядати / [Склад. Р. С. Гамзовіч, Н. Ц. Кажура, І. І. Крамко і інш.; Рэд. А. М. Булыка].— Мн.: Навука і тэхніка, 1985.— 303 с.

У пер. 1 р. 70 к.

У слоўніку даецца тлумачэнне і граматычная характарыстыка беларускай літаратурна-пісьмовай лексікі XIV—XVIII стст. Шосты выпуск будуецца на тых жа прынцыпах, што і папярэднія.

Разлічан на даследчыкаў мовы і літаратуры старажытнага перыяду, этнографаў, прававедаў і ўсіх, хто займаецца вывучэннем мінулага беларускага народа.

**4602020000—152**
**Г ———————— 120—85** **ББК 81.2Бел-4**
**М 316—85**



# В

**Выостреный** *дзеепрым. ад* выострити. железо ... з$^{s}$ великою працею выострено будеть, такожъ по пилности приходить мꙋдрость (Скар. ЕК, 15б).

**Выострити, выострыти** *дзеясл. // перан. Зрабіць жорсткім, зласлівым.* Вырви мѧ гси ѡт члка хитраго. и ѡт мꙋжа несправдивог высвобод мѧ, иже ... выострили ꙗзык свои ꙗко змеевый (Пс. XVI, 135); Вшелѧко нендзникꙋ на згꙋбꙋ свою заслꙋжылесь ... и срдце, и ꙗзыкъ выѡстрылесь, такъ абыс тꙋю глꙋпꙋю и негоднꙋю вырыгнꙋл$^{s}$ мовꙋ (Варл., 17); Кроль на маестатѣ седѣлъ, а при немъ его снъ ... и пред ѡными глꙋпые реторове стали, выѡстривши ꙗкъ меч$^{s}$ ꙗзыки свои (Там жа, 234).

**Выочищение** *наз. Тое, што і* очищение. тогды с того домкоу и коморочки в ыноую хоронкоу подземноую ис своимъ дитѧткомъ езꙋсом ... побегла а тамо аж до днѧ выѡчищеніе своего мѧшкала и таиласе (Валх., 58).

**Выочковати** *дзеясл. Выгафтаваць адзенне кругамі ў выглядзе «вочак».* нѣкоторіи тепер з$^{s}$ жидовского выкладают, выѡчкꙋешъ албо справиш шатꙋ ѡчковатꙋю (Выкл., 4б).

**Выпавший** *дзеепрым. ад* выпасти I *у* 2 *знач.* За тымъ обачивши мене его милость панъ Крыштофъ Пекарскій, подчашій воеводства Берестейского, и выпавшій зъ воза, зъ саней своихъ, мене оному чоловѣка ни въ чомъ невинного, безъ жадное вины и данья причины моее ... по твари моей почалъ пястью бити (АВК, II, 310, 1639).

**Выпаданье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* выпадати *ў* 1 *знач.* названа ѡт мѣста халибы, где сꙋт славныи горы длꙗ го$^{s}$ног **вы**паданꙗ крꙋшцов, сребраног и желѣзного (Стрыйк., 422).

**Выпадати** *дзеясл.* **1.** *Выпадаць, вывальвацца вонкі адкуль-н.* тую-мъ бакшту и полстѣны ... такожъ збилъ и здиравилъ, ижъ яко щотка, бервенье зъ стѣны и зъ обломковъ выпадало (АЗР, III, 141, 1568); щыт был добръ, але гвоздье выпадало (Бава, 139); ки$^{s}$ми сꙋковатыми шии их ламали и головы били, аж мозокъ з них выпадал (Зб. 107, 105); саламандра ... кгды сꙗ человѣка доткнет, тамъ вси волосы выпадати мꙋсꙗт (Зб. 259, 47б); Плѣска: Лꙋщинка з$^{s}$ которои жолꙋдъ або орѣхъ выпадаетъ (Бяр., 105—106). // *перан.* не выпадають слова мoѧ из$^{s}$ сер$^{s}$ць ваших по всѧ дни живота вашего (Скар. ДЗ, 12б); панове радные дзюравые рꙋки мают, че-

резъ которие дыри добрие 8чинки выпадают (Зб. 259, 436—436б).

2. *Раптоўна выбягаць, выскакваць.* въ ночи, пушкари огнистыми кулями по кольку-кроть запаливали, а Москва выпадаючи за перекопъ ... кули загашали (АЗР, III, 142, 1568); А умоцованый пана Андрея Еисимонта выводечи невинность его въ томъ обжалованю ... ижъ ... зъ дому своего не выпадалъ (АВК, I, 321, 1646).

3. *Нападаць, рабіць набег.* екторъ тежъ зъ его товариши смѣлост болшаꙗ припала, выпадали на греческии воѕска и потоками кровиѕ розливали (Тр. гіст., 70); выпадали на нѣх ꙗкиес чорные люде кривды бжее мстители (Зб. 107, 105).

4. *Вырывацца, выбівацца вонкі (пра агонь).* Того рок8 великиѕ се чуд стал ... на горѣ везвѣи ... в ѡсен ѡгон и поломени великие надзвычаѕ выпадат почали (Бельск., 237); кгды дом вн8три горит, ѡгон през ѡкна и през дах выпадает (Зб. 255, 65б).

5. *Падаць (з вышыні).* камене великое ꙗко кули ѡгнистые выпадали (Зб. 81, 231б); Гды вызнавала кождый грѣхъ, зѕ оустъ еѧ жабы на землю выпадали (Зб. вып., 42).

**Выпадаючий** *дзеепрым.* 1. *Ад* выпадати *ў* 4 *знач.* ѡбачили дым з мѣста выпадаючи, поднесли крикливе до бга голосы (Бельск., 296); 8чиниласѧ з криницы ѡнои ѡздобнаѧ река п8дом великим выпадаючаѧ (Зб. 82, 184).

2. *Ад* выпадати *ў* 5 *знач.* претожъ не мог8тъ мовити, вѕ ѡнъ день: не вѣдалихмо ѡ Бзѣ, ѡповѣд8ютъ вамъ выпадаючіи зѕ нба громы и перуны (Мак., 109).

**Выпаденье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* выпасти I *у* 2 *знач.* повторе за выпаденемъ пана Андрея Еисимонта зъ дому зъ громадою, где и панъ Константиновичъ повторе припадши шкодливе ранилъ (АВК, I, 321, 1646).

**Выпадокъ** *наз. Выкідыш.* иже теперь бых лег и оутихноул спал бых тогды бѕ ми оупокоино было ... а любо какъ выпадокъ похованыи не был быхъ как дѣти иже не видели свѣта (Зб. 262, 13).

**Выпаленый** *дзеепрым.* 1. *Ад* выпалити *ў* 1 *знач.* виделомъ на томъ Блогиневскомъ дворчику ... плоты коло двору поламаны, ярына выдоптана и выпалено, якобы на польгоны (АВК, XXII, 160, 1565); тылько печыща пустые на погорелищу, одъ москвы выпаленомъ, зостали (ИЮМ, I, 353, 1619).

2. *Ад* выпалити *ў* 2 *знач.* тамъ же у Мошна у двухъ соснахъ знаки въ одной вытесано, а въ другой выпалено (АВК, VI, 145, 1586).

3. *Ад* выпалити *ў* 3 *знач.* выривши и написавши кождыѕ з них имꙗ свое на каменꙗх и на цеглах выпаленоѕ аз тоеи материи вежъ 8мыслили собѣ б8довати (Стрыйк., 416б).

4. *Абпалены, абгарэлы, абвуглены.* кожа наша ꙗко пещъ выпалена естъ (Скар. ПЕ, 11б); на врочищу у Борку дубъ великий обаполъ выпаленый и рубежъ выщепаный и вычерчоный (АВК, XVIII, 98, 1592).

**Выпаленье** *наз.* 1. *Дзеянне па дзеясл.* выпалити *ў* 1 *знач.* панъ Фалимеръ ... позвы, выписъ, которыми пана Богуфала о тое кгвалтовное скаженье и выпаленье границъ былъ позвалъ пе[ре]дъ нами судьями подралъ (АВК, XXI, 83, 1555); за выпаленемъ места и волости Велижское великое зъубожене у спустошенье прышъло (ИЮМ, I, 353, 1619).

2. *Дзеянне па дзеясл.* выпалити *ў* 3 *знач.* Купили угаля возъ для выпаленя формы (ИЮМ, X, 147, 1695).

**Выпалити** *дзеясл.* 1. *Спаліць дашчэнту; знішчыць агнём, выпаліць.* нечѕтивый Земли народъ выпалилъ (Скар. ПБ, 25); пришол Андрей кнꙗз полоцкий ѡлкгирдович з немецким войском ... и выпалил мног мѣст, и сел (Стрыйк., 548); Тогѡ ѡгнѧ ск8тк8 блженный Двдъ ш8каючи рек: Проб8и мѧ и досвѣдѕчай мене, выпаль нырки мои и срдце мое (Мак., 229); корол июсиꙗ ... лѣсъ з которого дерево витинаючи балваны робили выпалил (Зб. 259, 11б); в паркане и в городе дворы до щенту выпалили (АВК, XXXIV, 158, 1660). ◊ Выпалити съ паневки — *даць асечку.* самъ тотъ Томашевскій зъ рушницы... мѣрилъ и стрѣлити хотѣлъ, якожъ съ паневки выпалилъ, (але милостію) Божою не выстрелилъ (АВК, VIII, 126, 1637).

2. *Зрабіць (узор, знак і г. д.) пры дапамозе выпальвання.* А такъ я подкоморій ... наказаломъ былъ палей два передъ упустомъ вбивши у водѣ петна гербу моего потоль, поколь вода заливаетъ, роспаливши, въ огни, выпалити (АВК, VI, 234, 1619).

3. *Зрабіць, вырабіць, падвергнуўшы працягламу абпальванню.* и рекли ѡдин до ближнего своего: пойдимо, начинимо цѣглы и выпалмо еи ѡгнем (Біблія, 29).

**Выпалый** *дзеепрым. ад* выпасти I *у* 5 *знач.* насъ зѕ ласки своей выпалыхѕ, зась до ней принѧл (Каліст, II, 203б).

**Выпаляти** *дзеясл. Рабіць, вырабляць, падвяргаючы працягламу абпальванню.* ꙗкъ гончаръ горщки до печи вложивши, мѣрне его а неназбыть выпалѧетъ (Мак., 231—232).

**Выпареный** *дзеепрым. // перан. Выгнаны.* и зараз бѣсъ ꙗко ѡгнемъ ꙗкимъ выпареныѕ выѕшол (Пралог, 492).

**Выпасати** *дзеясл. Выпасваць, знішчаць выпасам.* Испасаю: Выпас8ю, исход; кв. вытравлѧю (Бяр., 59—60).

**Выпасвеный** *гл.* выпаственый.

**Выпасенье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* выпасти II. тое покошенье сеножати и побранье сена и выпасенье овса пана моего возному ... оповедалъ и обводилъ (АВК, XXII, 174, 1565); в жалобе позовной выражоного, такъже сеножатей выпасене, депътане (АВК, XXXI, 478, 1683).

**Выпаственый, выпасвеный** *дзеепрым. ад* выпаст-

вити. то панъ дей Быстрицкій на себе покосилъ, а иное выпастьвено (АВК, XXI, 79, 1555); ходиломъ ... на огледованье и окопованье збожа потравленого и выпаственого (АВК, XVIII, 146, 1597); бачечи потравеного и выпасвеного збожья и сеножати ихъ на кильку местцахъ, тогды... окоповали есмо збожья и сеножати ихъ (Там жа, 222, 1608).

**Выпаственье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* выпаствити. тое потравленье и выпаственье того збожа на тыхъ нивахъ менилъ панъ Адамъ Халевский сталое одъ стада сверепъ (АВК, XVIII, 146, 1597).

**Выпаствити** *дзеясл. Выпасвіць, патравіць выпасам.* хто бы едучы дорогою брал албо жалъ жито и иншое збоже або выпаствилъ и вытопътал конми ... таковыˢ винен будеть стороне жалобливоˢ тры рубли грошэˢ заплатити (Ст. 1566, 39б); наганяючы по две ночы стадо сверепъ на збожье мое дворъное Мелеховъское, все вънивечъ вытравили и выпаствили (АВК, XVIII, 145, 1597).

**Выпасти** I *дзеясл.* **1.** *Выпасці, вываліцца вонкі адкуль-н.; выслізнуць (з рук); не ўтрымаўшыся, вылецець.* плечо мое ѡт рамени своего выпало бы и мышˢка моѧ ѡт рѹки своеи зломила бы сѧ (Зб. 262, 25); десеть грошей с платкомъ изъ запазушья выпало (АВК, XXI, 41, 1555); очи его зъ бою великого выпадли (АВК, XVII, 432, 1561); ростѧл ему гелмъ и голову, и выпалъ мозок з головы (Бава, 148); два хлопи ... ѹпѹстили тот паль, которыˢ выпадши им з рук ѹдарил ꙗнуша млынара в тыл кголовы (Еўл., 16); панъ Сиргутевскій ... прискочивши до него пястью у тваръ ударилъ, съ которого разу на землю съ колясы выпалъ (АВК, I, 87, 1659); маючи лѣтъ сто, и зубы вси выпали (Зб. 82, 334); великыя въ раду Пирожномъ ворота сами выпали (ИЮМ, VI, 65, 1689); У одного коня подкова выпала (ИЮМ, IX, 176, 1692).

**2.** *Раптоўна выбегчы, выскачыць.* выпадши сынове вениꙗминны з гаваѡна забили ... з сыновъ израˢлевых кв тисꙗчи мужев (Біблія, 135—135б); в непогоднѹю ноч выпавши з замкѹ ... ѡбозы неприꙗтелские запалили (Стрыйк., 610); рицерство грецкое, которое было в коню ѡном выпавши запалили мѣсто (Тр. гіст., 91б); на помочъ другая челядь его милости пана воеводычова была выпадла (АВК, XX, 268, 1621); выпало противко мене до семидесѧтъ бѣсовъ вˢ розмаитыхъ постэвахъ (Мак., 15); зъ рознымъ оружіемъ, до бою згоднымъ, панове Янъ и Томашъ ... зъ засацки выпавши ... жалуючого протестанта ... били, мордовали (АВК, XII, 490, 1684).

**3.** *Напасці, зрабіць набег.* на них наши выпадши, и стершис ꙗ з ними почали ѹстѹповат такъ далеко аж ихъ привели на стрелбѹ (Хр. польск., 24б).

**4.** *Упасці на зямлю (аб атмасферных ападках).* tohož misiaca maja dwadcat perwoho dnia wypal sneh w polholeni czełoweku (Бых., 551); снег великиˢ выпал, прето што было пашни, ꙗ рицы ѡвса пшеницы ... то все снегом напало (Барк., 163б).

**5.** *Страціць што-н.* ѡт тог часѹ венкгерские кролеве з рѹси кгрунтовне выпали (Стрыйк., 491); Адамъ зˢ раю выпалъ длѧ роскоши (Каліст, II, 171—171б). // *перан.* болей смышлѧй надъ потребу свою, абы зˢ розуму не выпалˢ (Скар. ЕК, 11б); протожъ найбезпечнѣйшаѧ есть каждомѹ хрстіанинови не хотѧчомѹ зˢ едности костелной выпасти наболше на ха га смотрѣти и оного сѧ держати (Апакр., 163); Адаме, Адаме где естес ... выпалес з счастꙗ, ѹтратилес дари тобѣ даныи (Бельск., 5б); такъ Адам по престѹпленіи заповѣди, выпадши зˢ першей своей славы ... не видѣлъ правдивого отца нбсного (Мак., 272). ◇ **В ы п а с т и з р у к и** — *страціць чыю-н. апеку, прыхільнасць.* был есми подданъ межи ѹмерлыми, ꙗкъ межи забитыми которие лежат во гробех, а которих не маеш в памети которие выпали з рѹки твоеи (Пс. XVII, 84б).

**6.** *Дастацца на долю.* И выпал жеребеˢ третиˢ сынов завѹлоновых, на мѣстъ вс и на селы ихъ (Біблія, 252); цар ... мовит. але бѹдем метат лѣосы. а кгды так ѹчинили, выпал лѣосъ на мелхиседека на милог сына царицы (Бельск, 15б); Петру святому не до поганъ, але до обрѣзаныхъ ити жребій выпалъ (АЗР, IV, 233, 1606—1655).

**Выпасти** II *дзеясл. Выпасвіць, патравіць выпасам.* Попсовал его [виноград] лесноˢ вѣпръ, и звѣрꙗта дикие выпасли его (Пс. XVII, 74).

**Выпатровати** *дзеясл. Разглядаць, разглядваць.* ꙗко теды позвѣрховныи ѡчи здалека выпатрѹютˢ тернˢе, мѣстца оупадненѧ и ꙗмы (Мак., 71).

**Выпаханый** *дзеепрым. ад* выпахати. Подобенство ѡд земли выпаханои, и орача, сме, и сms, ѡд пшеници и кѹколю (Мак., 400).

**Выпахати** *дзеясл. Узараць.* ꙗ водле торъговли своее ѡнѹю землю ... достаточъне выпахавши ... понасевалъ (КВС, 512б, 1552).

**Выпеклый** *дзеепрым. Выпечаны, добра прапечаны.* елъ бы еси хлебъ. выкислый выпеклый ествою порѧдною подобъе сего (Арыст., 230—231).

**Выпелненье** *наз.* **1.** *Тое, што і* выполненье *ў 1 знач.* так тѹт моˢсеˢ тылко мовит ѡ выпелненню приказанꙗ даного ѡт бга (Выкл., 57).

**2.** *Тое, што і* выполненье *ў 5 знач.* зането и померено для выпелненя и выпростованя волокъ подданымъ господарскимъ волости Мединкгянское (АВК, XXIV, 191, 1555).

**Выпелнивати** *дзеясл. Тое, што і* выполнивати. ne maiut żadnych tych wyż menenych reczey mni y potomkom moim dawaty y wypełnywaty, krom reczey y posłuszenstwa duchownoho (Пін., 105, 1553).

**Выпелнити** *дзеясл. Тое, што і* выполнити *ў 1 знач.* хто

мил8ет ближнего, выпелнил закон хвъ (Зб. 261, 201); сл8жити старӑтесѧ ω тое с пилностию, абыс на8к8 т8ю гсднюю выпелнили (Зб. 259, 120б).

**Выпенденье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* выпендити. малжонка его пни Ганна Ботвинянка ... на заяханя маетности своей ойчистей и вечистей выехавшы з Литвы з выпенденя московского (АВК, XXXIV, 277, 1663).

**Выпендити** *дзеясл. Тое, што і* выпудити *ў* 1 *знач.* самого того дозорцу зъ двора Урбаниского выпендивши, безъ одданья жалуючимъ сумы заставное (АВК, XII, 465, 1678).

**Выпередити** *дзеясл. Апярэдзіць, абагнаць.* Тогда бежалъ есть ахимаасъ тѧ̑йнимъ [так!] путемъ и выпередилъ х8заа (Скар. ДЦ, 102); если бы хто на кони ед8чи пѣшого албо хромог выпередил из него се насмехал был бы то барзо глупы̆ (Зб. 259, 101).

**Выпережати** *дзеясл. Апярэджваць, абганяць.* ѩк̆ бовѣм̆ в̆ бѣганю ω заводъ, бѣг8чи возом̆ а ωдинъ др8гого выпережаючи, гам8етъ, и задерж8етъ доганѧ̑ючого ... такъ и мысли дш̑ѣ и грѣха, бѣгаютъ в̆ члвк8 (Мак., 11); Жолнѣре зас пр8дким бѣгомъ, ωдинъ др8гого выпережаючи, поскочили на ωный пагорокъ (Варл., 194б).

**Выпережатися** *дзеясл. Спаборнічаць.* Такимъ теды способомъ кгды весполъ з̆ собою жили Варлаам и Іωасафъ, и доброю горливостю межи собою выпережалисѧ̑ (Варл., 346б).

**Выперти** *дзеясл. Выгнаць, выштурхаць сілай.* [половцы] вшакже не могли сѧ им ωперет, выперли их татарове а аж до венкгер 8текли (Стрыйк., 461); пѣшие на горѣ в садех сѧ засадили ... кгды ω том кролеви дано знат, справивши людъ выперлъ ихъ з садов (Хр. польск., 24).

**Выпечоный** *дзеепрым. Абпечаны, абгарэлы, абпалены.* хрыбетъ увесь спаленый, бока выпечоны (АВК, XVIII, 168, 1599); стегна также и лытки, подошвы, брухъ увесь и надольные члонки выпечоны (Там жа).

**Выпивати** *дзеясл.* 1. *Выпіваць (якое-н. пітво).* купцы ... тотъ медъ сытятъ, и по три дни сходячися медъ выпиваютъ (АЗР, III, 269, 1582); Бурмістры и радцы ... на каждое свто по три дни выпивают (СДГВ, II, 1, 1582). *Парайн.* выпияти. 2.//*перан. Паглынаць, убіраць (у сябе).* миро мокрот8 тѣльноую выпивает (Чэцця, 327).

**Выпиловати** *дзеясл. Выпілаваць.* выпіловалъ у старымъ погребищу стену (ИЮМ, VI, 162, 1689).

**Выпирати** I *дзеясл. Выганяць, выштурхваць сілай.* Микита ... того дому и з пляцом ... продати мел, але то твердечи, што толко хоромы и будоване спустил, выпирати хотелъ (ИЮМ, XXXII, 78, 1578).

**Выпирати** II *дзеясл. Мыць, вымываць.* вшелѧ̑кій нечистый омывалъ сѧ̑ водою, и выпиралъ одѣне, а такъ входил до збориска (Каліст, II, 284); Испираю: Выпираю (Бяр., 60).



**Выпиратися** *дзеясл., зв. ад* выпирати I. ωни ... сего год8 почали сѧ с тое сл8жбы выпирати (КВЗС, 78б, 1538).

**Выписание** *гл.* выписанье

**Выписаный** *дзеепрым.* 1. *Ад* выписати *ў* 1 *знач.* они ... повѣдили намъ, штожъ дей тотъ листъ вписанъ есть въ книги судовыи, и минуту, выписаную съ тыхъ книгъ, передъ нами вказывали (КЗ, 579, 1495); листы ... зупол̆не выписаны с хал̆деискихъ книгъ на греческий ѩзыкъ (Скар. КЕ, 2—2б); И засъ з лист8 одного, ωт тогожъ митрополита до его млсти пне воеводы кіевского ... слова выписаны (Апакр., 18); ωпоскам то А ведаючи достаточне то ωт иншых выписано (Еўл., 12).

2. *Ад* выписати *ў* 2 *знач.* Царей і8дииыхъ, и Царей из̆раилевыхъ четырьдесети с̑праву выписану (Скар. КБ, 5); въ которыхъ жо правехъ выписано о погълаве женьской (КПД, 45, 1538); в̆ котωрихъ то книжкахъ выписано способъ ωтправован̆А синод8 того такъ докладне (Апакр., 9); нӑдешь книги в ихъ головах в которых рожӑ ихъ и конецъ выписаны̆ есть (Зб. 752, 439б).

3. *Ад* выписати *ў* 3 *знач.* А чого 8 стомъ писмени не выписано, а ѩко том8 вѣрити кто можеть (Будны, 12б).

4. *Ад* выписати *ў* 4 *знач.* вси, которые артыкулы дали есмо имъ, на томъ привильи нашомъ выписаныи, потвержаемъ то имъ на вѣчные часы (АЗР, I, 26, 1388); 8 θундате не стоить ωвесъ выписанъ (КСД, 371, 1516); отъ тоѣ службы земскоѣ, съ того почту, тяглыхъ людей выписаныхъ выймусмъ (АЗР, II, 204, 1529); тотъ платъ нашъ зъ волости до него былъ принесенъ съ тымъ его доходомъ выписанымъ (КПД, 70, 1529); в которых листехъ зар8ка господарскаѩ стоить выписана, жебы ωн до права в нашы земъли и борти ничиѩ сѧ не вст8палъ (КВЗС, 101б—102, 1539); rukami poymano kniazey sorok ... da dwa wo hołowach zymali, kniazia Iwana Wolodymerowicza Kijewskoho, brata jeho Fedora Korbutowicza, a innych wsich imen ne wypisano (Бых., 532); пани малжонка его милости есть сама акторка, которой вси иміона и титулы власные ... въ позве выписаны (АВК, I, 134, 1677).

5. *Ад* выписати *ў* 5 *знач.* Листъ ωт папа некоторого з рокош8 выписаный ω новинахъ рокошовыхъ (Барк., 158); В той прето Бжственной Еvглiи ѩкъ ω втѣленю, такъ ωбѧ̑веню, и ч8да, и приказанѧ̑хъ его гисторiѧ̑, Дхомъ Бжiимъ найд8етсѧ̑ выписана (Варл., 64б).

6. *Ад* выписати *ў* 6 *знач.* выписаны были вi добродетелей члкихъ въ золоте выписаны были женьскими образы всѧ̑какаѧ̑ по своем8 подобию (Алекс. XV, 2); гектор ... влочню секучу и тарчи позлотистыи носил на котором же было выписано три львы (Троя, 26); всѣ царскіе ωт Адама почавши всѣ битвы златомъ выписаны (Алекс. 1697, 73б—74).

**Выписанье, выписание** *наз.* 1. *Дзеянне па дзеясл.* выписати

ў 1 *знач.* зъ выписаньемъ личбы зъ доходовъ церковныхъ каждому наступцы одному по другомъ зъ становъ духовныхъ (АВК, II, 11, 1589); за выписанье съ протоколу уфалы выписомъ, на папиръ и за працу Банкевичу подписку дали асм. двадцать (ИЮМ, I, 21, 1679).

2. *Дзеянне па дзеясл.* выписати ў 2 *знач.* ѡт нового завѣта оное слово за великий довод стоить, которое Апслъ Павелъ пред выписаньемъ Вечери гсдней къ Корин$^s$ѳѡмъ тако написалъ (Будны, 220—220б).

3. *Апісанне, выклад, апавяданне.* ДлѦ чого сѦ не згожаеть перъшое выписание или выложение з выписаніемъ Апслъскимъ (Будны, 226); Много речей сее короткое выписанье в собѣ замыкаеть (Там жа, 237б); кготы ведлуг выписанѧ аблѧни8са их прирожоног гисторика, вышли с краин морских полночных (Бельск., 309б); Історіа: Свѣдок$^s$ всѣх$^s$ вѣкѡв, або дѣи, правдивое выписане прѡшлыхъ речый (Бяр., 283).

4. *Дзеянне па дзеясл.* выписати ў 4 *знач.* Привиле$^s$ мест8 Миле$^s$чицкому ... Нижли на$^s$дено есть вчоными слушные а справедливые речи выписанью ѡтдати (КСД, 891, 1516).

5. *Тое, што запісана.* мы ему по тому жъ дали пану ѳедку уверху выписанья вѣчно (РПП, 327, 1392).

6. *Запіс (юрыдычны акт).* о выпісанію именію (Вісл., 9).

**Выписати** *дзеясл.* 1. *Выпісаць, спісаць, перапісаць, зрабіць выпіску.* Царь ... сѦдеть на престоле Царства своего да выпишеть собѣ книги закону божиѦ (Скар. ДЗ, 36); ѡтец владыка его млсти выписавъшы с правилъ ѡтъцовъ свѧтыхъ тотъ артыкулъ за печатью своею до насъ прислалъ (КВЗС, 53б, 1533); потом сын его алеѯандер лист им таки$^s$ дал, которы$^s$ з ческих кро$^s$ник, кро$^s$никаре полские выписали в тыи слова (Стрыйк., 426); Іерей зась повѣненъ правдиве выписати з$^s$ метрыки суроженіе его (Зб. вып., 56).

2. *Апісаць, выкласці пісьмова.* на росправ8 судовн8ю межы такими розведеными ѡколо вена, маеть судъ д8ховны$^s$ выписавъшы правдиве и верне причын8 розвод8 ѡтослати ихъ до с8д8 належного светъского (Ст. 1588, 286); сиѳъ ... наперве$^s$ зложил книжныи литери ѧзыком сирскимъ, а зложивши выписал знаки небесныи, ѡбхожене лунное и рочное (Біблія, 21); власне под час се$^s$му року ахме ... выписал новины православным (Дыяр., 158б); было тогды видети дивное и преславное стрѣтеніе их, и не можно ѡ томъ и сказати языкомъ, а ни выписати пѣрком$^s$ таковогo спотыканѧ его (Алекс. 1697, 17).

3. *Паведаміць (аб чым-н.) пісьмова.* дарес 8 своих книгах ѡ том ничого не выписал (Троя, 5); томъ т8тъ не длѦ того такъ широко ѡ папеж8 выписалъ абымъ его боронити мелъ (Унія, 41); чого ему Кириллъ зазрячи, яко сатана Адамови въ раю, подмовилъ его, абы выписали до митрополита о соборъ (АЗР, IV, 211, 1600—1605); слухам рад инших кторы вѧдоми будучи ѡ том выписали (Еўл., 30); ачъколвекъ тобѣ нѣшто



выпишемы ѡ нашем животѣ, всѧкож жадным ѡбычаем 8мыслъ твой не на$^s$де смаку жадного в нем (Алекс., 31б).

4. *Запісаць цалкам.* ахилес .... каждого на имѦ на том то местцю выписал (Троя, 11—11б); не даючы розныхъ квитовъ, вси доходы и пожытъки одного двора ... на одномъ выписати (КПД, 565, 1557); простыхъ людеи которых жывыхъ поимали нѣльзе и выписати множества длѦ (Рач., 348); Тые слова дѣеписовы, длѦ того читателю любимый, здало ми сѦ т8 цале выписати, абыс тым снаднѣй пост8пкови его приглѦдѣтисѦ могъ (Апакр., 96—96б); мы того тестаменту кнзя Матфея огледавши, и его выслухавши казали слово от слова в сем нашомъ листе выписати (СДГВ, 61, 1619).

5. *Стварыць літаратурны твор, запісаўшы яго.* теж был виргилиѡн кро$^s$никар и писар римски$^s$, котори$^s$ выписал повѣсти або истории ѡ ении и ѡ зб8реню трои (Рым., 8б); Поты сѦ кончит таѦ Книга, котор8ю ведл8гъ силы моеи выписалемъ, ѧкъ неѡмылне принѦвши ѡт знаменитых м8жей (Варл., 362); многие и велми потребныи выписал книги послани҃ѧ, повѣсти, житиѧ и похвали свѧтым 8годником бжим (Пралог, 510б); гавріилъ Архангелъ и мо$^s$сеѧ на8чилъ писма Стого во пустыни, где выписал быте$^s$ские книги (Там жа, 546б). //*перан.* ◇ Выписати кровию — *напісаць літаратурны твор шчыра, з глыбокім пачуццём.* оное рукопісаніе нашое кровию своею выписалъ (Будны, 130).

6. *Намаляваць; вырысаваць, вычарціць.* А границы выписати, покуль теперь на обѣ сторонѣ украинники держатъ (АЗР, II, 134, 1522); пред тож ми тебѣ сѧ кланѧ емъ, прозбы нашой не ѡставъ, ѡбразъ свой выпишъ да пришли нам нехай царств8ет$^s$ над нами вмѣсто тебе (Алекс. 1697, 75); наперед каж8 тобѣ же царица Кандокіѧ матридонскаѧ ѡбразъ твои выписала (Там жа, 84).

**Выписатися** *дзеясл.* 1. *Зв. ад* выписати ў 2 *знач.* теперъ выдаемо книжк8 полск8ю, где сѦ выпиш8тъ причины, длѦ чого календаръ естъ ѡтмѣнный, и которымъ способомъ мѣлъ бы быти направленый (Апакр., 48).

2. *Адбіцца, адлюстравацца.* с тое коморы нине каплица оучинена оу которой есть стоплъ [так!] за которым англъ стоѦл да его виденіе на столъпе какъ на печати се выписало (Валх., 73).

**Выписованье** *наз.* 1. *Дзеянне па дзеясл.* выписовати ў 1 *знач.* которой оунѣи лістъ тамъ же снать списаный приписалъ, и што ее за трактаты з розрознеными од митрополита греческой релѣи людми попередили, припоменоулъ. в$^s$ выписованю тыхъ трактатовъ и тоеи оунѣи (Апакр., 4).

2. *Дзеянне па дзеясл.* выписовати ў 2 *знач.* которое *теж* право в$^s$ шкриптѣ синодоу берестейского при выписованью поселства до кр его мл естъ припомѦнено (Апакр., 38б).

**Выписовати, выписывати** *дзеясл.* 1. *Выпісваць, перапісваць.*

мещане на пожите ничого, принесли ф8ндаціи и привилеи на паргаменах в шести штуках на братство пред 8нѣею наданые з которых еден ф8нд8шъ епископски[s] каждом8 на вырозумене выписую в тые слова (Дыяр., 153); ин[s]ших ф8нд8шовъ не пишу, толко з кролевскихъ хоч еден привиле[s] ствержаючи[s] ф8нд8ши и клятвы на ѡтступных выписую в тые слова (Там жа, 154б).

2. *Апісваць, выкладаць пісьмова.* многіе моци и достоенства тот попъ іанъ индийскій. на своихъ листех и епистолах выписоуеть. и выказоуеть (Валх., 67); наболей сий рекомый вторый законъ, понѣже что в первыхъ четверыхъ широце выписываеть (Скар. ДЗ, 3б); Евсевій тое дѣаніе широко выписуючи не въспоминаеть никоторых ѡбразовъ (Будны, 13—13б); мает правдиве тэстамэнт казати выписовати и выражати (Ст. 1566, 87б); Двдъ выписуетъ несправедливое прирожене и ѡкр8тенство притомъ и каране всѣхъ невѣрных (Пс. XVII, 35—35б).

3. *Паведамляць, апавядаць, пісаць.* въ тых листехъ выписуеть, ижъ ѡна сама речи скарбу ... ѡтдала (КСД, 22, 1516); Глава гі ... выписываете о частехъ земли котораа сѦ достала поколению Рувинову (Скар. ІН, 26б); ваша милость ... привилей нашъ на то покладали, въ которомъ привильи выписуеть, ижъ они мають вамъ за имѣньи своими служити (АСД, І, 10, 1522); выпис8ют з стороны кгрецкое люде[s] згинут на то[s] во[s]нѣ ѡсмъсот и семдесят тисяч з троянов шестсот семдесят и шест тисяче[s] (Бельск., 90); ѡ которых ч8дах не час досконале выписовати (Дыяр., 149).

4. *Вычэрчваць, выпісваць, вырысоўваць.* халде[s]чикове перед потопом, текстом халде[s]ским на каменых столпах пришлые пляки выписовали и вырезовали, гам8ючи злых люде[s] ѡбримов потомков каиновых, ѡт злости, ѡткул ся писмо халде[s]ское, значит быти першое ниж жидовское (Стрыйк., 414).

**Выписоватися, выписыватися** *дзеясл.* 1. *Зв. ад* выписовати *ў* 3 *знач.* ѡбраз храма гсдньѦ ... и иныхъ пречудных[s] делъ ... выписываетсѦ (Скар. ТЦ, 133б); ѡ житіи светого Иѡва. И ѡ роде его: выпис8еться (Скар. ІК, 3); Похвала послушаниѦ и смирениѦ и долготерпениѦ выпис8етсѦ (Скар. ПС, 38).

2. *Пісацца, ствараццa (аб літаратурным творы).* [Діарі8шъ] исписаны[s] през смиренного іеромонаха ... выписуется для вѣдомости людем православнымъ хотячим ѡ том тепер и 8 потомные часы вѣдат (Дыяр., 148б).

**Выписокъ** *наз. Спіс, рукапісная копія.* выписок ѡного листа абы даван сурѦд по каждои земли ѡткрыто всѣм людемъ абы были готови на тотъ днь (Зб. 262, 129); и выписок листа оурѦдного иж дан в шюшанѣ п8стоши ихъ дал ем8 оуказати естери и росповѣдати еи пріити к црю и молитис ем8 и просити перед ним ѡ люд свои (Там жа, 129б).

**Выписуючий** *дзеепрым. ад* выписовати *ў* 2 *знач.* тежъ помочи и мнѣ выписуючому животы ст: потреба (Пралог, 533б).

**Выписъ** *наз.* 1. *Выпіска з дакумента, копія.* билъ намъ чоломъ митрополитъ Іосифъ, абыхмо тую уставу великого князя Ярослава, то есть свитокъ, выписъ съ правъ духовныхъ Греческихъ ... нашимъ листомъ потвердили (АЗР, І, 189—190, 1499); Аманъ ... выписъ теже листу царева ... далъ естъ ему абы донесъ царевой (Скар. КЕ, 9б); Выписы зъ реистровъ о Ганезь (АСД, І, 12, 1522); могуть тэж быти доводы листовные то ест записы на имена и иные выписы (Ст. 1566, 62б); о чом есть ширей и достаточней на выписе кгродскомъ описано и доложоно (АВК, XXII, 436, 1570); хто выпис8 на то с книгъ потребовати будетъ, таковому то с книгъ выдано быти маеть (Трыб., 15б); панъ Ясинъский ... лист упоминалны и выпис врядовы подаля того листу упоминалного перед нами покладал (АВК, XXX, 27, 1589); злецилисмы тое оповѣданье наше ... до актъ кгродскихъ варшавскихъ донести ... и екстракты [на полі — выписы] до воевѡдствъ взѦти (Апакр., 35); сесь выписъ съ книгъ, подъ моею печатью врадовою, пани Богумилѣ Сорочыной естъ выданъ (АСД, III, 106, 1631); выписъ с книгъ померчыхъ подалъ до актъ книгъ кгродскихъ Пинскихъ (АВК, XXIV, 494, 1665); ѡсщаемый повѣненъ мѣти выписъ з[s] Метрыки, подписаный ѡт ІереѦ тоеѦ Црквe, въ которой онъ крестилсѦ (Зб. вып., 56). *Парайн.* выпись.

2. *Запіс, пісьмовы пераказ паказанняў (на судзе).* што дей я маю на выписе оповедания моего на враде кгродскомъ Ошъменьском все тое описано и доложоно (АВК, XXXII, 264, 1582); в томъ листе и выписе земскомъ новгородъскомъ сознанья того лист8 его ѡписано (КЛС, 2, 1596); въ которомъ дей выписе пише, ижъ се то вжо въ ночы стало и въ неведомости (АВК, XVIII, 214, 1607).

**Выписываный** *дзеепрым. ад* выписывати *ў* 1 *знач.* сказаня судовные 8 книги судовые буду 8писывати а пилновати и доглядывати абы подле сее присяги моее справедливе были выписываны (Ст. 1566, 41б).

**Выписывати** *гл.* выписовати

**Выписыватися** *гл.* выписоватися

**Выпись** *наз. Тое, што* і выписъ *у* 1 *знач.* листъ мой купчій и выписи врадовые ... отдалъ есьми вси до рукъ тыхъ же старшихъ зборовыхъ (АВК, VIII, 409, 1577); Подстаростему и писару за выпись дано полталера битого (ИЮМ, VII, 44, 1690).

**Выпити** *дзеясл. Выпіць, праглынуць якую-н. вадкасць.* они же 8пиваютсѦ всегда виномъ, и пооучаютсѦ кто лепей свою чашу выпиеть (Скар. ПС, 36); о томъ дей нехай ведаетъ, ижъ у Вильни воды не выпьетъ (АВК, XXI, 250, 1556—1557); Дружненна ... чашу забытного питьѦ дала ему, и ѡн скоро ее выпил (Бава, 153); привели потом до стого ѡдн8 жен8, котораа пючы в ночы вод8 выпила змею невеликую (Зб. 752, 4б);

меду также выпили кгарцы полъчверта (ИЮМ, I, 24, 1679); тогда филипъ в̂земъ к8бокъ и выпивъ до половици самъ, и волосе ѡт головы ірв8чи рекъ (Алекс. 1697, 29). //*перан. Паглынуць, знішчыць.* Жита его голодный ꙗсти будеть, и самого поимает воинъ, и выпиють жаждущие богатество его (Скар. IК, 9б); начерпавшы воды з вифлиемскои ст8дни принесли до двда. а ѡн ... еи ѡферовал гд8 бг8 мовꙗчи ... кров тых м8жев, и дшъ небезпеченства их не выпил (Бельск., 110б). //*перан. Вынесці, выцерпець.* кубокъ той горкого полын8 гнѣва Бжого, за непок8тованый грѣхъ нашъ, выпити нам з потребы приходило (Каліст, I, 126); сыном божыим был, посл8шенства ѡтцовского ѡп8щат не мелъ, але выпит вес келих которы ем8 ѡтец далъ (Зб. 255, 286).

**Выпитый** *дзеепрым ад* выпити. егда была выпита вода з лагвице. поверже ѡтроча под древомъ единымъ иже бѣ т8 и ѡтиде и сѧде прѧмо (Скар. КБ, 37); такъ тежъ и носатъку горелъки за семъдесятъ грошей выпитую, пры ономъ кгвалте тые люди пенези занесли и имъ не платили (АВК, XXXVI, 119, 1582); реклъ ему серапис ... По выпитом тр8нку горкую смерть 8кусишъ (Алекс., 75б); для п. Бутовича и инныхъ, за медъ, тамъ выпитый 4 гар (ИЮМ, XXII, 13, 1711).

**Выпихати, выпыхати** *дзеясл.* 1. *Выпіхваць, выштурхваць.* оные мещане ... кинулися вси и почали мене выпихати и вытиснули нас зъ двора гостиного (ИЮМ, I, 335, 1593); З др8гой стороны обавѧючисѧ где бысьмы приходѧчих до себе ... были выпыхали, абысьмы тымъ в подозренье а злое роз8менье и себе и вѣры своей оу них не были привели (Апакр., 91); кгды дѣти стрелꙗют новою к8лкою, давъне ш8ю к8лк8 з п8кавъки выпихают (Зб. 259, 280б); лжечи и соромотечи ихъ самихъ выпыхать и бить подданымъ и челеди своей казали (АВК, XV, 70, 1662).

2. *Прымушаць уцякаць.* Кгды Миха8ло стратоник, наступил, по феѡдорѣ на панство царигородское теды моцю тиранскою, жадного права не маючи вдерсе исаки комнин: Миха8ла правог цесара выпихаючи (Бельск., 379—379б).

**Выпияти** *дзеясл. Тое, што і* выпивати *ў* 1 *знач.* морские люде ... листе рвали а выпиꙗли з них вод8 (Бельск., 402).

**Выплатити** *дзеясл.* 1. *Выплаціць, заплаціць.* к8пили есмо въ тебѣ перевозъ за двanадцать копъ грошей, и тыи пѣнязи вси есмо тобѣ выплатили (КСД, 28, 1510); Денис Мишкович и з сыном ... ему фантами, товарами ... выплатили (ИЮМ, XXX, 84, 1577); слуга ... съ тыхъ грошей на то до него даныхъ, тымъ сыномъ ... выплатити будеть повиненъ (АВК, II, 46, 1617); б8д8чи в великихъ долъгахъ и не мог8чи их самъ выплатити ... пришолъ до него (Зб. 259, 329б); Цеху кушнерскому выплатили складанъки таляровъ битыхъ пятдесят (ИЮМ, VIII, 116, 1691).

2. *Выкупіць, заплаціўшы доўг, атрымаць у сваё распараджэнне маёмасць, якая знаходзілася ў закладзе ці была прададзена.* Первороженнаго ѡт сыновъ своих выплатишъ (Скар. КВ, 65); Естъли бы пакъ хотелъ выплатити полѣ той он же богу ѡтдалъ Тогда приложить к тому пѧтую часть сребра за что оценено и б8деть владети полемъ (Скар. КЛ, 53).

**Выплатитися** *дзеясл. зв.* 1. *Ад* выплатити *ў* 1 *знач.* Пакли же будеть дворъ в селе или в посаде не имеѧ около стены градовы, то да продаетсѧ ꙗкоже естъ обычай продавати полѧ, не выплатитсѧ ли первой. То в лѣто ѡтпущениѧ да навратитсѧ господину его первому (Скар. КЛ. 48б).

2. *Ад* выплатити *ў* 2 *знач.* не мѣлес сꙗ чимъ выплатит з долъговъ твоих (Зб. 259, 523).

**Выплаценье** *наз. Тое, што і* выплаченье *ў* 1 *знач.* стороны копеекъ запозычоной суммы на выплацене квоты свентоянское (ИЮМ, IV, 132, 1686); Реестръ одебраня грошей на выплацене порцыи жолнерской его кор. млсти немецъкихъ, одъ пановъ поборцовъ выбраней складанки (ИЮМ, XIII, 10, 1699).

**Выплачати** *дзеясл. Выплачваць, плаціць, рабіць рэгулярныя выплаты за што-н.; вяртаць доўг.* певъную суму пенезе ... ѡнъ певъными ратами въ аренъде ѡписаными выплачать ... будетъ (КЛС, 14б, 1596); на кождый рок до скарб8 кролевского полтора крот сто тисꙗчей выплачат, на три раты подꙗлисꙗ (Стрыйк., 631); панъ Сафроновичъ ... постановленую квоту ихъ милостямъ отцомъ базиліяномъ выплачалъ ажъ до згону житья своего (АВК, XV, 515, 1686); кождый Епспъ за Сакр8 повиненъ и долженъ естъ. Римови, певн8ю с8мм8 выплачати (Зб. вып., 58б). //*перан. Расплачвацца (за што-н.).* єсли сꙗ смерти чого годного доп8стил неха 8мре, жебы на том свѣте грехи свои выплачал, ажебы вѣчнои м8ки пекелнои 8ти моглъ (Зб. 107, 99б). *Параўн.* выплачивати.

**Выплачатися** *дзеясл., зв. ад* выплачати. сынъ ... князя ... не служывши с подхоругви уехалъ, которого кгды постигнувшы до везеня взято за парукою акторов моих уволненье зосталъ и в томъ выплачаючысе пану ротмистру (АВК, XXXI, 402—403, 1669).

**Выплачение** *гл.* выплаченье

**Выплаченый** *гл.* выплачоный

**Выплаченье, выплачение** *наз.* 1. *Дзеянне па дзеясл.* выплатити *ў* 1 *знач.* он ... иншихъ пнзей на выплачене тых двухъ копъ грошей не бралъ (АВК, XXXIX, 30, 1578); цесар ... великии богатства з персѣи вынес, з которых велик8ю част послал ... до сергиꙗ патриархи на выплачене церквам долгов (Бельск., 339б); на што и квитацыю на тенъ рокъ за выплачене квоты кабачной, пятнадцати тысячей, отримали (ИЮМ, II, 40, 1683); отобрали зъ скарбу ... грошей ... на выплачене цехом, што запозычали, на отвезене квоты свентоянское (ИЮМ, VIII, 11, 1691); п. бурмистру ... на выплачене сукна на кунтушъ ...

позычили были ему талеровъ битыхъ два (ИЮМ, X, 122, 1695). *Параўн.* выплаценье.

2. *Дзеянне па дзеясл.* выплатити *ў 2 знач.* братъ ... возможеть самъ достати сребра, къ выплаченю ѿчизны своеѧ (Скар. КЛ, 48—48б).

**Выплачивати, выплачывати** *дзеясл. Тое, што і* выплачати. я, не маючи чимъ долговъ своихъ выплачивати, для того двѣ части того именья ... заставилъ (Пін., 118, 1561); которуюмъ я суму выплачиваючи, далъ домъ свой у той суме (АВК, XXXIX, 69, 1578); муж мой виненъ Хоме толко осъмъдесят гршей, на которые выплачываючы, робил ему шупки и двадцать гршей отробил тыми шупками (Там жа, 527, 1579); ничимъ тыхъ грошей не задерживаючи выплачивати (АЗР, IV, 13, 1589); по ему золотыхъ польских з скарбу нашого великого кнѧзства литовского выплачывалъ (КЛС, 133, 1597).

**Выплачиватися** *дзеясл., зв. ад* выплачивати. о томъ яко се они своими властьными гршьми выплачивали Яну Солецъскому за его бой и шкоды (АВК, XXXIX, 70, 1578).

**Выплачоный, выплаченый** *дзеепрым.* 1. *Ад* выплатити *ў 1 знач.* покладал квит ... на шесть копъ грши выплачоны за Ѳилипа Кожановича на тот же лист (АВК, XXXIX, 84, 1578); правда ест, иж то нашъ властны описъ, але тот записъ есть весь давно выплачонъ (ИЮМ, XXXII-2, 181, 1578).

2. *Ад* выплатити *ў 2 знач.* Все еже посвѧтитсѧ гсду богу ... можетъ выплачено быти (Скар. КЛ, 53б); Сие пакъ речи перворожденные выплачены будуть по единомъ месеци пѧтма сикли сребра по вазе свѧтыни, сикль же двадесетъ сребреникъ имать в собе (Скар. ЛК, 41).

Выплачывати *гл.* выплачивати

**Выплеваный** *дзеепрым. Выплюнуты.* начине ... былъ наполънилъ тиранъ кровию выплеваною (Зб. 259, 502б).

**Выплевенье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* выплевети. А по нихъ братиѧ ѩко чиста пшеница по выплевеню кȣколю лепши зоставали (Пралог, 680б).

**Выплевети** *дзеясл. Выпалаць.* ѿкул теды кукол мает ... а слȣги рекли ему: хочеш ли ижъ поидем и выплевемъ ихъ (Зб. 752, 467б).

**Выплендровати** *дзеясл. Разрабіць.* а с Полщи пнъ Стадницкиъ з ротами великими. Там же на москве в тот часъ бгъ ведает, што сѧ там деѧло, места замки малые выплендровали (Барк., 173); потом з венкгерских границ з тылком вожом своим до влоскои земли тѧгнȣли, которȣю всю выплендровали. потом до гишпанѣи ... ȣдалисѧ (Стрыйк., 425).

**Выпленити** *дзеясл. Узяць у палон.* погубилъ ест врагы своѧ околичныѧ, и выпленилъ филистымлѧнъ противѧщихсѧ даже до днешнего днѧ (Скар. ІС, 75); За ласкою милого Бога и за фортуною в. королевской милости ... панство звоевалъ, выплѣнилъ, выпалилъ, вывелъ люди и статки (АЗР, II,



378, 1541); wsich ich poraziwszy, y mnohiie horody y zemli ich pobrawszy, a ostatok na konec wypleniwszy y wypaliwszy ... do swoich zeml dojechali (Бых., 523).

**Выплести** *дзеясл. Расплятаючы, выняць што-н. з чаго-н.* такъ Хс кроль нбсный ... выправилъ и оупахалъ дȣшȣ запȣстѣлȣю, выплелъ зъ ней терне и ѡсетъ превротныхъ дȣхѡвъ (Мак., 271).

**Выплестися** *дзеясл. Выбрацца, выйсці.* атоли вижȣ, же сѧ намъ часъ назначеный дороги нашей приближает. с которой ѩкобы сѧ выплести, и самъ не вѣдаю (Апакр., 20).

**Выплетыватися** *дзеясл. Вызваляцца, пазбаўляцца ад чаго-н.* в великие пожадливости свецкие впадают з которых сѧ не лацно выплетывают (Зб. 261, 133).

**Выплунути** *гл.* выплынути

**Выплутатися** *дзеясл. Вызваліцца, пазбавіцца ад чаго-н.* А хто сѧ свѣта не ѡдречетъ и не выплȣтаетъсѧ ѡд земныхъ пожадливостій ... тотъ скритых злости дȣховъ, здрады и таемныхъ неправостій аффектовъ не оузнаетъ (Мак., 212).

**Выплывати** *дзеясл.* 1. *Уплаў выбірацца на сушу.* Покаяніе и наша церковъ вельце залецаетъ, бо естъ яко бы дошка якая по розбитью корабля, которою ся люде ратуютъ и на берегъ выплываютъ (Гарм., 208).

2. *Выцякаць, выліваецца адкуль-н.* были там дерева высокии ... а были подобны бобковому и ѡливному деревȣ, з которих кадило и балсам ѡбфите выплывал (Алекс., 38); кровъ з головы его пренасветшое выплывала (Зб. 107, 164); погане не толко ѡт вина, але ѡт ѩгодъ, с которих вино выплывает встримывалисѧ (Зб. 259, 444); И зараз ѡдного з нихъ ... так ѡкрȣтне бито ажъ его елета выплывали (Пралог, 589).

3. *Браць пачатак, цячы адкуль-н. (аб рацэ, ручаі і г. д.).* Несходными горами сȣть аффекты, презъ которыхъ сріодокъ, смоковъ ѩдовитыхъ, гадовъ и робацствъ, рѣки выплываютъ (Мак., 162). // *перан. Вынікаць, з'яўляцца.* величыть дȣша моѧ господа, ѡд которого дотыхместь вси добра на мѧ выплывали (Зб. 255, 169).

**Выплываючий** *дзеепрым. ад* выплывати *ў 3 знач.* Ижъ дховныи подлѣгаютъ покȣсамъ и оутискомъ, зъ першого грѣха выплываючимъ (Мак., 164).

**Выплынути, выплунути** *дзеясл.* 1. *Уплаў выбрацца на сушу; усплыць на паверхню.* желѣзо со дна на верхȣ выплынȣло (Зб. 752, 413); з трафȣнъкȣ затонȣлъ корабль его на мори ѿкуль самъ ледве выплынȣлъ (Зб. 82, 424). *Параўн.* выплысти *ў 1 знач.*

2. *Выцечы, выліцца адкуль-н.* ȣдарил в головȣ стого Іакова, такъ ижъ мозок весь з неи выплынȣлъ (Зб. 752, 459б); на крижу выплынула зъ гсда всѧ кровъ и вода (Выкл., 115); тлустост выплынула з котла и мног невѣрных попалила (Зб. 82, 37б). // *перан. Знікнуць, прапасці.* вѣчне речи звыкли то

люде бачніи письмомъ варовати а то на часы потомне зоставяти, абы то съ памети людской не выплынело (АСД, I, 5, 1507). *Парайн.* выплысти ў 2 *знач.*

3. *Узяць пачатак, пацячы адкуль-н. (аб рацэ, ручаі і г. д.).* ѡтворилъ есть гсдь богъ зубъ кутний ȣ щеки ословы и выплынули суть с него воды (Скар. КС, 34); Выплынȣли потоки водъ зс ѡчъю моих, длꙗ того ижъ не стережено законȣ твоего (Пс. XVII, 142—142б); стꙗта ест аз шыи ей чȣдовне молоко выплынȣло (Зб. 82, 182). // *перан. Вынікнуць, з'явіцца.* хто такъ гойной, того премоꙶного КролѦ, ласце и щодробливости (с которое такъ дорогие и·неѡшацованые подарки и оупоминки выплынȣли) со страхомъ и любовію не поклонитсѦ (Карп., 5б); Перша, ижъ правовѣріѦ, благочиніѦ, и бл҃голѣпіѦ церковнаго (которое, на тыхс мѣстахъ початокъ взѦвши, на весь широкій, свѣта того окрȣгъ, ꙗкс з неѦкого жродла выплынȣло) стале, статечне, и неѡтмѣнне сѦ держитъ (Там жа, 16б); што колвек теперъ доброго насдȣет се в церкви ѡд них все пошло, ѡт них выплȣнула статечност мȣчеников, справедливост (Зб. 255, 215); ȣважас, ꙗкъ много доброго с того ѡткȣпениꙗ на тебе выплȣнȣло (Там жа, 371); Пріими ласкаве, бо Ласки Хрстовой Потоки которые зс жродла мȣки его выплынули, ѡповѣдаетъ (Дзід. Прадм.).

**Выплысти** *дзеясл.* 1. *Тое, што і* выплынути ў 1 *знач.* Коли утопили, топоръ давали, а выплывши, ни топорища (АЗР, III, 171, 1574); толко ѡдин нѣмец на берег кролевског ѡбозȣ выплыл (Стрыйк., 550).

2. *Тое, што і* выплынути ў 2 *знач.* голова наскрозь ножомъ пробита и уся окрутне кийми збита ажъ мозкгъ выплыл (АВК, XXXVI, 44, 1582).

**Выплюнути** *дзеясл. Выплюнуць.* младенец ... ѡт бга надхненыс на землю впадши ꙗзык свос стиснул и част его вкȣсивши на ѡнȣю безстȣдницȣ выплюнул (Бельск., 248б).

**Выповедание** *гл.* выповеданье

**Выповеданый** *дзеепрым.* 1. *Ад* выповедати ў 1 *знач.* его королевская милость на тотъ часъ важнѣйшими справами забавленъ быти рачилъ, а потомъ сеймъ естъ выповѣданъ (АЗР, III, 276, 1582).

2. *Ад* выповедати ў 2 *знач.* то не ест рѣчъ выповѣданаꙗ однакъ длꙗ жоданѦ твоего ѡдну тобѣ рѣчъ повѣмъ што ест фрашка и ничого згола взглꙗдом правды (Зб. 107, 115б).

3. *Ад* выповедати ў 4 *знач.* поколь вамъ служба не будетъ выповѣдана (АЗР, III, 235, 1578).

**Выповеданье, выповедание** *наз.* 1. *Дзеянне па дзеясл.* выповедати ў 1 *знач.* которыи ѡныи черес выповеданье и знаменованье и выкладаніе и толмаченіе своихъ даров которые гдноу ѡферовали выгнали и с кореніа выгладили (Валх., 94б).

2. *Дзеянне па дзеясл.* выповедати ў 2 *знач.* да во всих сто-



ронах оу тых то кнжатъ и шлѦхтицев тыи книги преложены и еще были и соут. зь ихъ же книг и слыханіа и виданіа иных выповеданіа (Валх., 40б).

3. *Дзеянне па дзеясл.* выповедати ў 4 *знач.* о выповѣданьи ког выповѣдают с права (Вісл., 6б); А потом повторо въ семъ же року ... тежъ приточила справа ... о выповѣданье послушеньства и забранье всихъ церквей (АВК, VIII, 89, 1609).

**Выповедати, выповядати** *дзеясл.* 1. *Апавядаць, расказваць, гаварыць; выкладаць, паведамляць; прапаведаваць.* книги хрестіанске против говорѦт и выповедают иже был поганин а был первый пррк поганскій с поганства (Валх., 38б—39); вжо на ѡбе стороне справу свою перэд судом выповедають (Ст. 1566, 54б); можемы тобѣ ѡ наших ѡбычаꙗх ȣмыслилисмы выповѣдат (Алекс., 31б); кс немȣ частокротс всѣх его православнои Вѣры догматъ приȣчалъ, и бозское Еvгліе выповѣдалъ (Варл., 161б—162); ИсповѣдаюсѦ: ДѦкȣю, вызнаваю, выповѣдаю (Бяр., 60).

2. *Выказваць, выражаць словамі.* и принесли емȣ ... иных многих речеи ѡт сȣдȣ многоценнаго иж немочи было выповѣдати члчьим ꙗзыком (Алекс. XV, 2); насъ свещенъниковъ соромотили словы невчытывыми што трȣдно и выповедати (КВЗС, 41, 1538); гололедица ковзота студен ижъ трудно было выповедати (Барк., 167б); иных мȣкъ нелзе выписати албо выповедати (Патр. П, 100); Докуль же грѣшници ... хлюбит сꙗ будȣт; докуль же будȣт выповѣдат и мовити неправост (Пс. XVII, 8б).

3. *Растлумачваць.* ине кнги розмаите выкладают и выповедают чомоу тыи три королеве тако званы (Валх., 56б—57); вошли передъ мене мудрыи и чорнокнижники, абы тое писмо читали, и выкладъ его абы мнѣ ȣказали, и не могли выкладȣ мовы тоеи выповѣдат (Біблія, 545); присмотри сѦ милосердію бозскомȣ: члвка нѣѦкимсь досыть чиненемъ оутѣшаетъ, и причины пришлого оутрапенѦ выповѣдаетс емȣ (Каліст, I, 149); несмертелныхъ ѡтцовъ ... жывоты выписуючы великих речыс которые ȣ них кȣ ȣвѣреню трудны ѡбавꙗюсꙗ выповꙗдат (Зб. 752, 489); и мовилъ ему: Маешъ мнѣ вси Таемници вѣри вашой выповедать (Пралог, 566б).

4. *Адмаўляць (каму-н. у чым-н.); парушаць.* о выповѣданьи ког выповѣдают с права (Вісл., 6б); не хотечи ничого ѡ томъ соборѣ ведать послȣшенство митрополиту выповедаючи выклинаньемъ и зложеньемъ его з столицы митрополское грозили (Бер. саб., 4б); черезъ послы свое послȣшенство имъ выповедаете, и ѡныхъ зъ столицы и достоенствъ ихъ складати важитесе (Там жа, 9б—10); Іȣстиниꙗн цесар з невдꙗчности кȣ тревелеви, кролеви болгарскомȣ покос емȣ выповѣдал, и примире зламал (Бельск., 34б).

**Выповеденый** *дзеепрым.* 1. *Ад* выповедети ў 1 *знач.* Выпо-

веденыи и тые еже 8текоша во грады 8бежищъ, да не возвращаютсА во места своА предъ 8мертвиемъ жерца великого (Скар. ЛК, 73).

2. *Ад* выповедети *ў 2 знач.* Жалость котор8ю мы греческой релѣи люде с тыхъ таких словъ ѡтнѡсимо, выповедена быти не можетъ (Апакр., 156б).

**Выповеденье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* выповедети *ў 1 знач.* татарове ... мстислава теж кнжати киевског по^s^мали, а иншиx роспорошоныx реч ганебнаꙗ и неслыханаꙗ к8 выповеденю (Стрыйк., 488б).

**Выповедети, выповедити** *дзеясл.* 1. *Расказаць, паведаміць.* да коли волюсіаноус до пилата пришол а емоу приказаніе црьское выповедел (Пак. Хр., 23б); препоусти ми таемнице албо стости выповедети крижа. которые оу пекле чинил еси (Там жа, 27б); ѡ богатьстве его никто не может выповѣдети (Валх., 89); тыи светки сознанье были вжо перед нами выповедили (АВК, XVII, 295, 1541); азажь то новина еднать се грекомъ зъ светою столицою римъскою, не новина, выповедели есмо ꙗко се черезъ полторы тисечы летъ з ними деело (Бер. саб., 56б); было жалосно и страшно гледѣти и выповедити 8здыханꙗ и плачу люде^s^ 8богих пашников немаетных (Барк., 164); хтож может выповѣдьти моцы хвы (Жыц. св., 140).

2. *Выказаць, выразіць словамі.* вси там вщепил и вфундовал роскоши которых жаден ꙗзык выповѣдит не може (Бельск., 3—3б); И хтожъ ѡного Мѣста піенкность, и слав8 ꙗзыкомъ выповѣдѣти можетъ (Варл., 279б); внутръ бовѣмъ в серц8 ꙗкъ колвекъ еи зроз8мѣваю, але словом того выповѣдити не могу (Зб. 107, 115).

3. *Растлумачыць.* Дивенъ Бгъ во всѣхъ речах, и роз8мом непонАтыи зогола: мы засъ члвци часточк8 нѣАк8ю дивѡвъ его выповѣдити к8симосА (Мак., 320); а хто ж тое веселие понАлъ албо выповедити достатечне может (Зб. 259, 506).

4. *Адмовіць.* которые послушенство отцу митрополите выповедели церкви и скарбы от них церковные отобрали (СДГВ, 54, 1609); отца Тихона Гутора ... который послушенство ему давно выповѣдилъ (АЮЗР, II, 56, 1609); панъ Янъ ... листъ ... отдавалъ отъ священниковъ русскихъ, которые послушенство отцу митрополите выповедели (АВК, XX, 211, 1609).

**Выповедетися** *дзеясл., зв. ад* выповедети *ў 2 знач.* ДобраА таА надѣА, ѡ которой мовилем, ЦрствіА нбсного ест^s^: таА засъ ест вшелАко, жадн ымъ Азыком людскимъ выповѣдѣтисА не можетъ (Варл., 62—62б).

**Выповедити** *гл.* выповедети

**Выповедовати** *дзеясл. Выказваць.* ѡтпорнымъ пастырѡмъ дховный оурАдъ звирхнотью [так!] и властью над собою через декретъ посл8шенство имъ выповѣдоуючи ѡттАли (Апакр., 15б).

**Выповести** *дзеясл. Расказаць, апісаць.* Хто жъ можетъ выповѣсти мѡцы Панскіи (Каліст, I, 97б); ихъ знаменитые справы вси з^s^ѡсобна хотѣлъ выповѣсти (Варл., 100б); ꙗким же способом^s^ злости его тобѣ выповѣсти мог8 (Там жа, 225б); ѡтворили Алеѯандр8 поровы скарбы таковые иж^s^ ѡчи человѣческіе и 8мъ не можег выповѣсти (Алекс. 1697, 73б).

**Выповзший** *дзеепрым. Той, які выпаўз.* и коню здох^s^ш8 8 военника и тот воен^s^никъ ѡволокъ его к^s^ морю, и выповзш8 ракъ и з мориꙗ и взꙗл конꙗ и вволоче в^s^ море (Алекс. 1697, 60).

**Выповядати** *гл.* выповедати

**Выпоити** *дзеясл. Даць выпіць.* котрий если выпоит одным^s^ з^s^ малых тых^s^ чашу ст8деное воды, только во имА 8ченика, правдиве мовлю вамъ, не потерАет заплаты своее (Цяп., 14).

**Выпокоити** *дзеясл. Супакоіць, суцешыць.* придѣте ко мнѣ вси ѡбрѣмененіи. азъ выпокою. в нинешнемъ граде (Чэцця, 283б); приидѣте ко мнѣ вси троужающиисА ѡбрѣменении. аз^s^ выпокою (Там жа, 298).

**Выпокутовати** *дзеясл. Перанесці пакуты ў якасці пакарання за што-н.* панъ Кгриштофъ ... не выпокутовавшы за забите ... пана Кголеевского ... слугу своего ... забилъ (АВК, XX, 254, 1618); гь бъ грѣхи ѡтп8щаеть ... дочестное каране предсе еднакъ за грѣхъ ... застав8ет^s^, абыс мы поднАли, любъ в томъ животѣ, люб заразъ по смерти, ежели быс мы не выпок8товавши оумерли (Навука, 24).

**Выполеровати** *дзеясл. // перан. Набыць пэўныя навыкі, уменне.* далеко болшъ дѣти малые ... потребуютъ наукъ мяккихъ, простыхъ и съ фабулками змѣшаных, абы тыми выполеровавшися смыслы ихъ до науки вышшое ... прийти могли (Пыт., 107).

**Выполнение** *гл.* выполненье

**Выполненый** *дзеепрым.* 1. *Ад* выполнити *ў 1 знач.* естли жъ ся то вамъ видить тяжко, и вы бы иные которые слушные способы нашли, чимъ бы тые повинности ваши мѣли выполнены быти (АЗР, III, 28. 1551); нашое тое постановенье .. маетъ быти держано и выполнено (КПД, 406, 1567); царъ филипъ реклъ до него: Сын8 алеѯандре, вси ѡтповѣди божскии выполнены сут в тобѣ (Алекс., 5); которые [шлюбы и ѡбѣтницы] нигде инъде, ск8течне и доскона ле выполънены быти не мог8тъ, едно в^s^ ономъ горнемъ Іерслимѣ (Карп., 23б); ни ꙗсне^s^ видели вси ѡбетницы ѡтцем 8чыненые речю самою быт выполнены (Зб. 255, 310б—311).

2. *// перан. Пераліты.* жебысмо ... радост^s^ твою в^s^ насъ выполнен8ю мѣли: которою наполнены бывши, б8рливого сего свѣтнего мешканА нашего вихроватое море безпечне абыс-

